

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 5(64) Май 1999 May Год выд. 7.

## Каардынатар «Хартыі-97» Андрэй Саньнікаў у ЗША.

*Каардынатар "Хартыі-97" у міжнародных справах Андрэй Саньнікаў цяпер знаходзіцца з візытам ў ЗША. Днямі адбылася яганая сустрэча зь першым намесьнікам Дзяржсакратара ЗША Стробам Тэлбатам. Гэта ня першая сустрэча былога намесьніка міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь на такім высокім узроўні. Трэба прыгадаць, што афіцыйная палітыка ЗША ў дачыненьні да Беларусі ёсьць так званая палітыка "выбраных кантактаў", вынікі якой для афіцыйеых беларускіх уладаў безумоўна адчувальныя.*

Цяпер ЗША з занепакоенасьцю назіраюць за разьвіцьцём падзеяў у Беларусі. Паводле Андрэя Саньнікава, існуе больш разуменьня беларускай сытуацыі і зацікаўленасьці ў тым, як будуць разгортвацца падзеі, у прыватнасьці, у сувязі з прэзыдэнцкімі выбарамі, якія прызначаны Вярхоўным Саветам Х111 скліканьня, а таксама ў сувязі з заканчэньнем прэзыдэнцкага тэрміну Аляксандра Лукашэнкі 20 ліпеня.

(Саньнікаў:) "Што тычыцца пазыцыі Злучаных Штатаў, дык я хацеў бы падкрэсьліць, што ЗША займаюць, можа, найбольш прынцыповую пазыцыю ў дачыненьні да Беларусі і да таго рэжыму, які ўсталяваўся ў Беларусі. І я задаволены тым, што гэтая пазыцыя была падцьверджаная, што прынцыпы разьвіцьця дэмакратыі, прынцыпы падтрымкі правоў чалавека непахісныя. Але з'явіліся пэўныя новыя моманты ў тым, як ЗША ацэньваюць сітуацыю. Гэта адбілася ў заяве ДзяржДэпартаменту ў сувязі з нашым спатканьнем".

У заяве Дзярждэпартаменту ўзгадваецца шэраг пытаньняў, якія абмяркоўваліся ў часе сустрэчы Андрэя Саньнікава са Стробам Тэлбатам. Сярод іх - і пытаньне пра стан расейска-беларускага зьвязу. У заяве падкрэсьліваецца, што інтэграцыя новых незалежных дзяржаваў павінна з'яўляцца працэсам дэмакратычным і выяўляць добрую волю народаў гэтых краінаў, быць узаемавыгоднай і не ствараць бар'ераў на шляху інтэграцыі ў больш шырокае супольніцтва.

(Саньнікаў:) "Што было больш істотным для мяне і больш важным - гэта што ЗША сур'ёзна паставіліся да таго, ці мае нейкае права Лукашэнка гуляць у гэтыя гульні з саюзам. І я задаволены тым, што было падкрэсьлена: зараз не існуе ніякіх падставаў, ні юрыдычных, ні палітычных, каб гэтыя намаганьні Лукашэнкі лічыць легітымнымі. Вось гэта найбольш важна. І я лічу, што зараз амбасадар ЗША павінен быць у Беларусі, таму што зараз вельмі напружаны, складаны момант і ў эканамічным, і ў палітычным жыцьці Беларусі, і калі ЗША зацікаўленыя ў тым, каб умацоўваць свае сувязі менавіта зь дзяржавай беларускай, з краінай, -- а гэта значыць, ня толькі з уладамі, але і з дэмакратычнымі сіламі, з апазыцыяй, то амбасадар павінен там быць. І я такую думку і выказаў спадару Тэлбату".

Беларусь, якая доўгі час была ня першай у сьпісе краінаў асаблівай увагі ЗША на постсавецкай тэрыторыі, цяпер актыўна патрабуе гэтай увагі. Дзеяньні беларускай улады ў значнай ступені разыходзяцца з тымі прынцыпамі, у адпаведнасьці зь якімі будуюцца ўзаемадачыненьні з цывілізаванымі краінамі. У заяве Дзярждэпартамент ЗША чарговым разам заклікае беларускае кіраўніцтва ініцыяваць дыялог, стварыць умовы для правядзеньня вольных дэмакратычных выбараў, вызваліць кандыдата ў Прэзыдэнты краіны, былога прэмьер-міністра Міхаіла Чыгіра, а таксама ўсіх палітзьняволеных. У Беларусі ёсьць час далучыцца да дэмакратычнай Эўропы, - гаворыцца ў заяве. Аднак гэта магчыма зьдзейсьніць толькі на падставе дэмакратыі і павагі да правоў чалавека.

Цяпер Андрэй Саньнікаў удзельнічае ў прадстаўнічай Гарвардзкай канфэрэнцыі, пасьля якой ізноў вернецца ў Вашынгтон. 27 красавіка ў Камісіі па бясьпецы і супрацоўніцтву ў Эўропе Кангрэсу ЗША пройдуць адмысловыя кангрэсавыя слуханьні, прысьвечаныя сытуацыі ў Беларусі. У якасьці сьведкаў выступяць адмысловы дарадца Дзяржсакратара ЗША ў дачыненьні з новымі незалежнымі дзяржавамі Рос Уілсан, кіраўнік назіральна-кансультатыўнай групы АБСЭ ў Менску Харві Орсвік, каардынатар "Хартыі-97" Андрэй Саньнікаў, выканаўчы дырэктар Міжнароднай лігі правоў чалавека Кэці Фіцпатрык, а таксама намесьнік эўрапейскага аддзяленьня міжнароднай арганізацыі "Human right wotch" Рэйчар Дэндал.



**Спадар Мікола ГРЭБЕНЬ — ведамы грамадзка-палітычны дзеяч, вэтэран беларускага незалежніцка-вызвольнага руху, рэпрэзэнтант Беларускага Кангрэсавага Камітэту на Пэнсыльванію, беларускі філантроп, вялікі патрыёт свайго народу.**

**Дарагі Мікола! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**



## БЕЛАРУСАМІ ГАНДЛЮЮЦЬ, І ЦАНЫ НЕ ПЫТАЮЦЬ...

26-га красавіка Рада Бясьпекі Расеі сфармулявала афіцыйную пазыцыю расейскага боку да працэсу інтэграцыі з Беларусьсю. Расейскі бок бачыць мэтай інтэграцыі стварэньне новага аб'яднаньня канфэдэрацыйнага тыпу. Да 1-га чэрвеня плянуецца падрыхтаваць узгоднены праект новай саюзнай дамовы. Пра ўсё гэта пасьля паседжаньня Рады Бясьпекі паведаміў расейскі міністар спраў СНД Барыс Пастухоў. "Калі праект дамовы падтрымае палітычнае кіраўніцтва дзьвюх дзяржаў, — заявіў Пстухоў, — ён будзе вынесены на агульнанароднае абмеркаваньне".



У сваю чаргу сакратар Рады Бясьпекі Ўладзімір Пуцін заявіў: "Аб'яднаньне Расеі і Беларусі ў адзіную дзяржаву разглядаецца ўдзельнікамі паседжаньня Рады Бясьпекі як стратэгічная мэта". У. Пуцін таксама заўважыў, што апошнія падзеі на Балканах яшчэ раз пацьвердзілі актуальнасьць паскарэньня інтэграцыі Беларусі і Расеі.

Разам з тым, ёсьць падставы меркаваць, што погляды беларускага і расейскага бакоў на мэту інтэграцыі не супадаюць цалкам. Не названыя крыніцы ў Менску гавораць, што беларускі бок распрацаваў радыкальны плян інтэграцыі. Згодна з гэтай інфармацыяй, беларускі праект прадугледжвае стварэньне пасады прэзыдэнта саюзнае дзяржавы, фармаваньне агульнага ўраду і парлямэнту. Такім чынам размова ідзе пра адзіную дзяржаву з адзінай сыстэмай улады і органамі кіраваньня. Паводле непацьверджанай інфармацыі, гэты праект ужо накіраваны Барысу Ельцыну і той з ім азнаёміўся.

У паведамленьні гаворыцца, што прапановы беларускага боку мусяць быць разгледжаны падчас сустрэчы А. Лукашэнкі і Б. Ельцына, якая адбудзецца 28-га красавіка ў Маскве. Там таксама сьцьвярджаецца, што ня ўсе прадстаўнікі расейскага боку падтрымліваюць радыкальныя прапановы Менску. Нібы шэраг афіцыйных асобаў з расейскага боку выступаюць супраць стварэньня любых новых наднацыянальных структураў, акрамя тых, што існуюць цяпер. Наколькі пляны беларускага кіраўніцтва супадаюць з той пазыцыяй, якую абмеркавала Рада Бясьпекі Расеі, стане зразумела самым бліжэйшым часам.

У любым выпадку відавочна, што стварэньне агульнае дзяржавы мусіць ажыцьцяўляцца толькі праз зьмены Канстытуцыяў абедзьвюх краінаў. Але расейскі міністар Б. Пастухоў гаворыць толькі пра нейкае агульнароднае абмеркаваньне. Такая форма высьвятленьня грамадзкае думкі не прадугледжананая Канстытуцыяй і законамі Расеі. Такім чынам, можна вылучыць вэрсію, што расейскі бок пакуль ня вельмі жадае праводзіць рэфэрэндум па стварэньні саюзнае дзяржавы і ўнясеньні зьменаў у расейскую Канстытуцыю.

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і дописы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ (ЗША.)

# ХТО КАМУ БЫЎ ВОРАГАМ?

**Аб зборніку "Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагодзьдзі".**

Паверыць гэтаму немагчыма: напрыканцы дваццатага стагодзьдзя ў цэнтры нібыта цывілізаванай Эўропы судзяць кнігу. Як у часы сярэднявечча. Паводле тых, хто задумаў суд, кнігу гэту трэба канфіскаваць ды спаліць.

Толькі зрабіць гэта ўжо немагчыма. Трыста экзэмпляраў — увесь наклад гэтай кнігі — разышліся імгненна. Яе не дазвалялі друкаваць у Беларусі, дапамаглі сябры ў Чувашыі, у друкарні гораду Чэбаксары.

"Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагодзьдзі" — так называецца гэтая кніга. У яе ўвайшлі артыкулы, даклады, паведамленьні ўдзельнікаў міжнароднай навукова-практычнай канфэрэнцыі, якую арганізавалі летась у Менску Беларускі Гельсінскі камітэт і Беларуская Асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.

Адстаўныя гэнералы А. Баранкевіч і А. Новікаў, мастак-акадэмік М. Савіцкі, доктар гісторыі А. Залескі, як паведамляла газэта "Навіны", зьвярнуліся да гэнеральнага пракурора краіны А. Бажэлкі з просьбай "абараніць гонар прэзыдэнта А. Лукашэнкі, прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці аўтараў гэтай кнігі". Мінская гарадзкая пракуратура запатрабавала ад Беларускага Гэльсінскага камітэту матэрыялы канфэрэнцыі, а кіраўніцтва Акадэміі навук Беларусі тут-жа пачало "разьбірацца" з супрацоўнікамі інстытуту гісторыі, якія на ёй выступалі.

Дык дзе і ў чым крамола?

Кніга пераканаўча даказвае, што пэрыяд прымусовага ўстанаўленьня савецкай улады на тэрыторыі былога СССР і ўсе гады яе існаваньня суправаджаліся бязьлітасными палітычнымі рэпрэсіямі, зьнішчэньнем мільёнаў нявінных людзей. З асаблівай стараннасьцю палітычны тэрор праводзіўся на Беларусі.

Т. Процька ("ЧК Беларусі ў барацьбе за ўстанаўленьне і ўмацаваньне савецкай улады") зьвяртае ўвагу на тое, што бальшавікі сталі ствараць спецслужбы адразу-ж пасьля захопу ўлады. Найвышэйшы заканадаўчы і выканаўчы орган саветаў — УЦВК ухваляў дзейнасьць надзвычайных камісіяў — ЧК, патрабуючы прымяняць да ўсіх, хто супраць, "самыя крайнія меры ўзьдзеяньня". А IУ Усерасейскі зьезд Саветаў у лістападзе 1918 году пацьвердзіў магчымасьць прыняцьця "экстранных мераў, якія не прадугледжаны ў дзеючым заканадаўстве альбо адыходзяць ад яго".

Яскравы прыклад беззаконнасьці — разгон бальшавікамі Першага Ўсебеларускага кангрэсу ў сьнежні 1917 году. Пра гэта падрабязна распавядаюць у сваіх артыкулах А. Гесь і В. Скалабан. Дэлегаты, дэмакратычна абраныя на гэты народны форум, прапарцыянальна прадстаўлялі ўсе слаі і групы насельніцтва Беларусі, усе партыі, у тым ліку і камуністаў. Кангрэс абраў найвышэйшы орган Беларускай Народнай Рэспублікі — Раду, якой даручылі выпрацаваць усе структуры беларускай сувэрэннай дзяржавы. Але ў ноч з 17 на 18 сьнежня па загаду камісара ўнутраных спраў Заходняй вобласьці бальшавіка К. Ландэра ў залю паседжаньняў уварваліся напаўп'яныя камандзіры Мінскага гарнізону Л. Рэзаўскі і М. Крывашэін разам з аддзелам салдатаў і разагналі Першы Кангрэс. 27 чалавек тут-жа былі арыштаваныя; у далейшым рэпрэсіям падвярглiся ўсе дэлегаты, якія ня зьехалі за мяжу.

Расстрэл без суда і сьледзтва з першых дзён новага рэжыму стаў звычайнай зьявай. У артыкуле Н. Стужынскай "Гісторыя ЧК у асобах", напрыклад, цытуецца дакладная камэнданта Менскага ЧК Сачэўскага, які ў студзені 1918 году "ліквідаваў" толькі на падставе няпэўнай падазронасьці свайго калегу: "Я вывеў яго... ва двор, паставіў да сьцяны і расстраляў... Каля трупа я паставіў вартавога, а сам пайшоў на кватэру да Яркіна (начальнік беларускага ЧК у той час), якому сказаў, што я расстраляў калегу як злодзея-рэцыдывіста. Тав. Яркін адказаў: "І правільна зрабіў".

У кнізе падрабязна гаворыцца аб рэпрэсіях розных груп насельніцтва Беларусі, у тым ліку вучоных, выкладчыкаў, літаратараў, дзеячоў мастацтва (артыкулы В. Астрогі, Н. Васілеўскай, А. Дзярновіча, М. Токарава, гісторыка з Нямеччыны Р. Ліндэра). Рэпрэсіі стварылі спрыяльную глебу прымусовай русыфікацыі. Да 1953 году было рэпрэсівана 238 беларускіх пісьменьнікаў, жывымі вярнуліся толькі 20. У. Навіцкі і У. Завальнюк у сваім артыкуле расказваюць пра амаль пагалоўнае зьнішчэньне рэлігійных дзеячоў. Гэтых аўтараў дапаўняе ў сваім дасьледваньні А. Урублеўскі, падкрэсьліваючы, што зьнішчэньне духавенства было ў тыя гады часткай дзяржаўнай палітыкі.

Страшэнным было зьнішчэньне беларускага сялянства пад выглядам барацьбы з "кулакамі". М. Рымараў у артыкуле "Як зьнішчалі маю вёску" прыводзіць поўны сьпіс рэпрэсіраваных сялян вёскі Селівонаўка — некалькі дзесяткаў імёнаў. "Сталінская Хатынь", — так называе аўтар сваю Селівонаўку і пытаецца: "За што-ж зьніш- чылі мой родны кут?"

Надзвычай яркія факты, што выкрываюць камуністычны рэжым, прыводзіць менскі дасьледчык І. Кузьняцоў ("Тэхналёгія тэрору"). Аўтар нагадвае, што тэрмін "вораг народу" стаў ужывацца бальшавікамі ўжо ў першыя дні пасьля кастрычніцкага перавароту. Ён гучыць ужо ў падпісаным Леніным дэкрэце ад 28 лістапада 1917 году. У чэрвені 1922 году быў прыняты Крымінальны кодэкс РСФСР; ім карысталіся і ў Беларусі. 58-ы артыкул яго даваў магчымасьць шырокай трактоўкі дзеяньняў, за якія прадугледжвалася найвышэйшая мера пакараньня — расстрэл. Мэтады дазнаньня і прымусу былі розныя: даносы, рэпрэсіі па маскоўскіх разнарадках, біцьцё арыштаваных, арышты па начах, хвілінныя фармальныя суды, расстрэлы па сьпісках... Часта арыштаваных адразу расстрэльвалі, а потым афармлялі "справы", дзе няшчасных нібыта прызнавалі сваю віну.

Бясспрэчную цікавасьць уяўляюць абагульненьні І. Кузьняцова, асабліва ў сьвятле сучасных шматлікіх спробаў знайсьці апраўданьне сталінскім "ачышчэньням". "Рэпрэсіі, — піша аўтар, — зьявіліся найбольш страшэнным выяўленьнем палітычнай сутнасьці сталінізму і былі галоўным сродкам падтрыманьня неабмежаванай асабістай улады Сталіна". І ўсё-ж многія разумелі антынародную сутнасьць рэжыму, а некаторыя спрабавалі супрацьстаяць яму, хоць усе спробы супраціўленьня бязьлітасна падаўляліся. Яскравы прыклад — разгром Мядзельска-Смаргонскага маладзёжнага падполья ў Беларусі ў першыя пасьляваенныя гады. Аб гэтым расказвае ў сваім артыкуле М. Чарняўскі.

А. Літвін у сваім дасьледваньні разглядае праблему палітычных рэпрэсіяў у гады Другой сусьветнай вайны і пасьля яе. Рэпрэсіі зазналі ўсе былыя ваеннапалонныя, усе, хто быў вывезены ў Нямеччыну, усе, хто жыў пад акупацыяй, і такая палітыка абгрунтавана разглядаецца як працяг злачыннага генацыду камуністаў супроць свайго-ж народу. Аўтар падкрэсьлівае неабходнасьць уважлівага, неадназначнага падыходу да ацэнак зьяў і людзей, да канкрэтных лёсаў, асабліва калі гаворка ідзе аб калябарацыянізьме. А. Літвін зьвяртае ўвагу на тое, што на Беларусі "сыстэма поўнасьцю выкарыстала фактар калабарацыі для шырокай барацьбы з праявамі нацыянальнай самасьвядомасьці, падаўленьня нацыянальнай ідэі і імкненьня да нацыянальна-дзяржаўнай самастойнасьці".

Шэраг матэрыялаў кнігі прысьвечаны канкрэтным злачынствам рэжыму, масавым зьнішчэньням грамадзян. Пра Курапаты пад Менскам распавядае М. Крывальцэвіч, пра Шэкатоўскі лес пад Гомелем — А. Штэменка, пра масавыя расстрэлы палякаў у Катыні, Медным і пад Харкавам — польская дасьледчыца М. Бломбергова, пра захаваньні забітых рэпрэсіраваных на Ваганькаўскіх могілках і каля Данскога манастыра ў Маскве — Н. Ількевіч са Смаленску. У кнізе пераканаўча абвяргаецца спроба ачарніць дасьледчыкаў злачынстваў у Курапатах і сказіць вынікі працы археолагаў, як гэтага хочуць тыя, хто сёньня ва ўладзе на Беларусі.

Заключны разьдзел зборніка якраз і прысьвечаны сёньняшняй рэпрэсіўнай палітыцы беларускай улады (артыкулы Л. Валчок, В. Карабалевіча і іншых). Расказваецца пра парушэньні беларускім прэзыдэнтам Канстытуцыі Беларусі 1994 году і законаў, прынятых пад ужо ягоным кіраўніцтвам, пра рэпрэсіі супраць апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, пра закрыцьцё газэтаў і праграм на радыё і тэлебачаньні, пра шматлікія арышты, зьбіваньні людзей, зьдзекі над імі, пра сілавую забарону дзейнасьці многіх недзяржаўных арганізацыяў і фондаў. "У дзяржаве, — піша В. Караблевіч, — дзе права перастала быць рэгулятарам грамадзкага жыцьця, вінаватыя ўсе; карупцыяй абвяшчаецца тое, на што пакажа прэзыдэнт, а злачынцам прызначаецца таксама той, на каго пакажа той, хто на чале рэжыму".

Чаму-ж такая рэпрэсіўная пераемнасьць актыўная сёньня менавіта на Беларусі? "На вялікі жаль, — сьведчыць В. Костка ў артыкуле "Спецслужбы ў сыстэме дзяржаўнага кіраваньня", — наша Радзіма, Рэспубліка Беларусь адзіная з краін былога СССР ніякім чынам не адрэагавала на зьмены ў грамадзка-палітычным жыцьці ў 1991 годзе, больш таго, яна зараз зьяўляецца лабараторыяй, у якой праводзіцца экспэрымэнт па вяртаньні тых змрочных часоў у маштабах былога СССР". Застаецца дадаць, што Беларусь пасьля кастрычніцкага перавароту заўжды была палігонам камуністычнага Крамля для выпрабаваньняў антынародных ініцыятываў і праграмаў, для палітычных, эканамічных, культурных і іншых сацыяльных экспэрымэнтаў.

Аўтар з Гародні Т. Малевіч, нібы абагульняючы вывады сваіх калегаў, пытаецца: ці быў грамадзкі лад у СССР справядлівым, чалавечым, гуманным? Не, ня быў, — такі адказ. "Гэта не мільёны людзей былі ворагамі савецкай улады і савецкай дзяржавы, — справядліва сьцьвярджае Т. Малевіч. — Гэта савецкая ўлада і савецкая дзяржава былі ворагамі мільёнаў людзей!"

Вось у чым крамола, вось якую кнігу зьбіраюцца сёньня судзіць у Менску. Вядома, даўно патрэбны інакшы суд — міжнародны суд над камуністычнай таталітарнай сыстэмай, яе кіруючай партыяй і яе карнымі органамі. На такім судзе матэрыялы гэтай кнігі прагучалі-б як пераканаўчыя дакументы абвінавачваньня.

Спаліць гэту кнігу не ўдалося, нягледзечы на яе зусім малы наклад. "Напісанае застаецца", як казаў наш першадрукар Францішак Скарына. Застаецца з надзеяй, што людзі на нашай бацькаўшчыне дачакаюцца лепшага, вартага іх жыцьця.

## Памёр Генадзь Карпенка

**Генадзь Карпенка быў адным з самых яркіх беларускіх дэмакратаў, добрым прамоўцам, ведамым палітыкам, староньнікам рыначнай эканомікі і патрыётам сувэрэннае Беларусі. Спадар Г. Карпенка быў сапраўдным інтэлігентам, любіў літаратуру, музыку і тэатр. Ён быў поўны энэргіі, зьбіраўся жыць і змагацца і ... раптам памёр...**

**Вечная Памяць!**

## Маскоўскі Патрыях Аляксей II,

замест займацца рэлігійнымі справамі, гуляе ў палітыку. Нядаўна будучы ў Белградзе ён між іншым сказаў... што аб'яднаньне Сербіі, Расеі і Беларусі зьяўляецца крокам у інтарэсах людзей гэтых дзяржаў... На нашу думку інтарэсы беларускіх людзей не патрабуюць павучэньняў з боку маскоўскага герарха. Дарэчы, бэрлінскі штодзёньнік Berliner Zeitung мяркуе, што маскоўскі Аляксей мае даўно-існуючую сувязі з расейскай разьведкай...

**С.ШАРЭЦКІ,** Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь *Народная Воля*

# ВЯСНА НАДЗЕЙ І ТРЫВОГ

**Невялікі гістарычны экскурс да 81-гадавіны Абвяшчэньня незалежнасьці БНР**

Вясна — гэта пара абуджэння прыроды. Таму з яе прыходам людзі заўжды звязвалі свае надзеі на лепшы лёс.

Першая спроба беларускага адраджэння, беларускай дзяржаўнасці таксама адбылася вясною (1918 г.), але шлях да гэтага быў вельмі складаны. Барацьба беларусаў за сваю годнасць і незалежнасць не спынялася на працягу ўсяго перыяду ўваходжання ў склад Расейскай імперыі — варта ўзгадаць хоць бы паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі (24 сакавіка 1794 г.) і Васіля Вашчылы (май 1840 г.). Выбітную хвалю адраджэнскага руху за беларускасць узняло паўстанне 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, якое свайго апагею дасягнула, дарэчы, таксама вясною (красавік-май).

Нягледзячы на спробу паланізацыі, а пачынаючы з вядомых у гісторыі трох падзелаў Рэчы Паспалітай, гвалтоўную русіфікацыю, беларусы імкнуліся захаваць сваю культуру і мову. Паказальна, што менавіта на беларускай мове вітаў вядомы паэт Уладзіслаў Сыракомля (сапраўднае імя Кандратовіч) еўрапейскую рэвалюцыю 1848 года, якая, на яго думку, рабіла «вольных людзей і мужыкоў». У гэты час пачынае развівацца і творчасць Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, для якога беларуская мова стала асноўнай. У 1846 годзе ў Вільні на беларускай мове была надрукавана яго камедыя «Ідылія», да якой другі выбітны сын беларускай зямлі Станіслаў Манюшка напісаў музыку.

А творчая дзейнасць Францішка Багушэвіча (Мацея Бурачка), Янкі Лучыны (сапраўдн. Неслухоўскі), Алаізы Пашкевіч (Цёткі), акадэміка Яўхіма Карскага, які навукова абгрунтаваў самастойнасць беларускай мовы як адной са старэйшых усходне-славянскіх моў! Пры гэтым трэба аддаць належнае і многім польскім (а дакладней — апалячаным беларускім), а таксама расейскім навукоўцам, якія не толькі цікавіліся беларускім пытаннем, але сталі збіраць і выдаваць цэлыя тамы беларускіх народных песень, казак, загадак і прыказак, апісваць беларускія народныя абрады і звычаі. У маскоўскай славянафільскай літаратурна-палітычнай газеце «День» (1861-1865 гг.) знайшоўся нават сказ аб тым, што: «Мы вінаватыя перад вамі (беларусамі). Мы, расейскае грамадзянства, як бы забыліся аб існаванні Беларусі». У 1884 годзе пачаў выходзіць нелегальны народавольскі часопіс «Гоман», які змагаўся за палітычную і эканамічную самастойнасць Беларусі ў агульна-расейскай федэрацыі.

На новы, больш высокі ўзровень падняўся нацыянальна-вызваленчы рух у Беларусі на пачатку XX стагоддзя. У 1902 годзе ўзнікае Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, якая пазней была пераўтворана ў Беларускую Сацыялістычную Грамаду — першую на тэрыторыі Беларусі нацыянальна-дэмакратычную партыю сацыялістычнага накірунку. Стваральнікамі і кіраўнікамі яе былі браты Луцкевічы, К.Кастравіцкі (Карусь Каганец), В.Іваноўскі, А.Уласаў, Ф.Умястоўскі, А.Пашкевіч (Цётка) і іншыя. У 1905 годзе ў Менску быў скліканы Беларускі сялянскі з'езд, які пастанавіў стварыць Беларускі Сялянскі Саюз і выказаўся за аўтаномію для Беларусі. А ў 1906 годзе стала выходзіць першая легальная газета «Наша Доля», а пасля яе разгрому — «Наша Ніва», на старонках якой першыя свае крокі рабілі Максім Багдановіч, Янка Купала, Максім Гарэцкі, Алесь Гарун, Якуб Колас, Канстанцыя Буйло, Язэп Лёсік і іншыя.

Такім чынам, беларускае грамадства ніколі не развітвалася з надзеяй адраджэння сваёй дзяржаўнасці як вышэйшай ступені нацыянальнай незалежнасці. Больш таго, яно расло і спела да новых крокаў у гэтым кірунку. І калі ў канцы лютага 1917 года ў Расіі адбылася буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя, беларусы адразу адчулі подых надыходзячых веснавых бурлівых грамадска-палітычных падзей. Ва ўсіх цэнтрах Расеі пачалі ўзнікаць беларускія арганізацыі. Ужо 15 сакавіка 1917 года ў Петраградзе з'явілася дэкларацыя беларусаў, у якой гаварылася, што Расея павінна быць рэарганізавана на асновах федэральнае дзяржавы, а 25 сакавіка з'езд Беларускае Сацыялістычнае Грамады, які адбыўся ў Менску, выказаўся за аўтаномію Беларусі. 25, 26, 27 сакавіка 1917 года ў тым жа Менску прайшоў з'езд прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый, на якім таксама было пастаноўлена, каб Беларусь была аўтаномнай рэспублікай. Шырокай аўтаноміі для Беларусі і ўвядзення беларускай мовы ў царкве патрабаваў з'езд Беларускага каталіцкага духавенства, які праходзіў 24-25 мая 1917 года ў Менску. У маі таго ж года пачалі закладвацца і першыя гурткі беларусаў-вайскоўцаў.

Ажыўленне беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, якое пачалося вясной, працягвалася ўвесь 1917 год і скончылася скліканнем у снежні Усебеларускага з'езду-кангрэсу — Вялікай Беларускай Рады. Удзел у Радзе меліся браць і бальшавікі, але спазніліся. На кангрэсе прысутнічалі 1872 дэлегаты, якія па вырашэнню нацыянальнага пытання падзяліліся на дзве групы: незалежнікаў і русафілаў. Першыя стаялі за адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, другія — за больш цесную лучнасць Беларусі з Расеяй.

І вось тут ва ўсёй моцы праявілася здрадніцкая дзейнасць бальшавікоў, якія мелі ўжо ў сваіх руках уладу. Убачыўшы, што большасць дэлегатаў з'езду прытрымліваецца дзяржаўніцкіх поглядаў, яны абставілі будынак гарадскога тэатру, дзе праходзіў з'езд, войскамі і кулямётамі, і сілаю разагналі кангрэс. Але, нягледзячы на такія гвалтоўныя дзеянні, аднаму з сакратароў з'езду Тамашу Грыбу ўсё ж удалося зачытаць рэзалюцыю, якая абвяшчала Беларусь рэспублікай і была падцверджана дэлегатамі.

Пасля разгону кангрэсу ягоныя дэлегаты сабраліся ў чыгуначным дэпо і перадалі Радзе з'езду паўнамоцтвы для далейшага змагання за беларускую дзяржаўнасць. І калі пасля наступлення нямецкіх войскаў 19 лютага 1918 года бальшавікі пакінулі Менск, уладу ў горадзе і акрузе ўзяў у свае рукі Выканаўчы Камітэт Усебеларускага з'езду-кангрэсу, які 21 лютага абвясціў сябе найвышэйшай уладай на Беларусі і звярнуўся з Першай Устаўнoю Граматай «Да народаў Беларусі». У ёй, у прыватнасці, гаварылася: «Родная старонка наша апынулася ў новым цяжкім стане. Дзе цяпер улада, што была тут, няведама, мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкімі войскамі. Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен здейсніць свае права на поўнае самавызначэнне, а нацыянальныя меншасці — на нацыянальна-персанальную аўтаномію. Правы нацыі павінны знайсці сваё здзяйсненне шляхам склікання на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму». Выканаўчы камітэт Рады папоўніўся прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасцяў і, здзяйсняючы мэты з'езду, абвясціў сябе часовай народнай уладай на Беларусі. Абарону і далейшае зацвярджэнне заваёваў рэвалюцыі было даручана выконваць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які і стаў першым беларускім урадам. Да прыходу ў Менск немцаў (25 лютага) Беларускі Урад быў адзінай уладай у горадзе.

Напачатку вясны (9 сакавіка) 1918 года Беларускі Урад прыняў Другую Устаўную Грамату, у якой гаварылася, што «Беларусь у рубежах рассялення і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай». У Грамаце зацверджваліся правы і вольнасці грамадзян і народаў абвешчанай дзяржавы — БНР. А 19 сакавіка Рада Усебеларускага з'езду яшчэ раз папоўнілася — ужо прадстаўнікамі гарадоў і земстваў — і Выканаўчы Камітэт Рады з'езду быў пераназваны ў Раду Беларускае Народнае Рэспублікі. Менавіта Рада БНР на сваім пасяджэнні ў ноч з 24 на 25 сакавіка прыняла III Устаўную Грамату, дзе Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася «незалежнай і вольнай дзяржавай». Далей у грамаце асуджалася дзейнасць бальшавіцкага («чужога») ураду Расейскай Федэрацыі, які падпісаў і за Беларусь трактат у Бярэсці, што «забівае на смерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі». III Устаўная Грамата падцвердзіла ўсе правы і вольнасці, якія абвяшчала Ўстаўная Грамата ад 9 сакавіка 1918 года. А ў канцы III Устаўной Граматы выказвалася надзея на тое, што «усе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы».

З тых часоў прайшоў 81 год. За гэты час на долю беларускага народа выпалі вялікія выпрабаванні: сталінскі дыктат і ліхалецце Вялікай Айчыннай вайны, пасляваенная разруха... Адчуўшы ў першай палове 90-х гадоў прывабнасць свабоды, беларускі народ зноў трапіў у ціскі дыктатуры, устаноўленай на гэты раз прэзідэнтам А.Лукашэнкам, зноў даведзены да галечы і бяспраў'я.

Але, прыйшла зноў вясна спадзяванняў — Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, як таго і патрабуе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прызначыў чарговыя выбары Прэзідэнта 16 мая 1999 года. Нягледзячы на вялікі ўціск з боку выканаўчых уладаў, падрыхтоўка да выбараў ідзе сёння поўным ходам. І ніхто не можа пазбавіць беларускі народ яго канстытуцыйнага права абіраць кожныя пяць гадоў кіраўніка сваёй дзяржавы. Трэба знайсці ў сябе сілы і прыкласці ўсе намаганні, каб здзейсніць ідэалы незалежнасці і дэмакратыі, абвешчаныя вясною 1918 года. Як і тады, мы таксама спадзяемся на дапамогу прагрэсіўных дэмакратычных сілаў міжнароднай супольнасці і зноў падкрэсліваем: мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі.

**С.Шарэцкі, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

---

STATE OF OHIO

**Executive Department**

OFFICE OF THE GOVERNOR

*Columbus*

**RESOLUTION**

**WHEREAS,** the Belarusan American Association will observe the 81st Anniversary of the Independence of the Republic of Belarus of March 25, 1918 with a commemorative program at the Belarusan American Community Center on March 27, 1999 in Strongsville, Ohio; and

**WHEREAS,** Ohio is proud to be called home by many people of Belarusan ancestry - individuals who contribute daily to the vast social fabric of America and to the quality of life in the State of Ohio through dedication to the values of family, hard work and faith, among others, and through civil services, science, education, sports, business, and industry; and

**WHEREAS,** we recognize the importance of the rich cultural heritage and family values which are passed along to future generations through Belarusan American social, cultural and religious organizations; and

**WHEREAS,** the commemorative program will feature an address by keynote speaker, Nikolas Prusky, of Grand Rapids, Michigan, Publisher and Editor, Belarusian Digest; and honor Konstantin Kalosha, Reverend Father Michael Strapko and Tatiana Konoczuk, for their lifetime contributions to the Greater Cleveland Belarusan American community; and

**WHEREAS,** I am delighted to salute John Chanenka, President; Belarusan American Association, other officers, members, honorees, families, and friends of the Belarusan American community in Greater Cleveland for their contributions to the success of this celebration, for contributing to the multicultural diversity of the State of Ohio, and for working toward our common goals of peace, liberty and democracy.

**NOW, THEREFORE, I, BOB TAFT,** Governor of the State of Ohio, am delighted to join with all Ohioans in acknowledging the contributions of the Belarusan American community to the state, and hereby designate March 27, 1999 as

**BELARUSAN INDEPENDENCE DAY**

throughout the State of Ohio, and it is my privilege and honor to proudly display the Belarusan flag on State Capitol grounds. I urge all multicultural communities, especially the Belarusan American community, to join in appropriate observances and celebrations of this most distinguished occasion.

On this 25th day of March, 1999;



*Bob Taft*

Bob Taft
Governor

---



OFFICE OF THE GOVERNOR

GEORGE RYAN
GOVERNOR

March 19, 1999

Greetings:

As Governor of the State of Illinois, it is my pleasure to welcome everyone gathered for the 81st anniversary of the Declaration of Independence of the Republic of Belarus, sponsored by the Belarusian American Council of Chicago.

The historic independence of Belarus occurred on March 25th, 1918. For eighty years the Belarusian government and people have worked diligently and patiently to garner pluralistic and democratic success for their country. This dedication to and love for Belarus is a source of inspiration and encouragement for generations to come. It is an honor to recognize the Belarusian American Community of Illinois for preserving and promoting the rich Belarusian heritage and culture.

On behalf of the citizens of Illinois, please accept my best wishes for an enjoyable anniversary celebration.

Sincerely,

*George H. Ryan*

George H. Ryan
GOVERNOR

---

*Жыві-ж наш край! Няхай надзея*
*Гарыць у сэрцах і мацнее,*
*Што хоць ня мы, дык нашы дзеці,*
*Убачаць вольным цябе ў сьвеце!..*



Я. Колас

# Мара пра беларускі храм, альбо Крокі па з'яднанні нацыі

"ЛіМ"

ЗА МІТУСНЁЮ ЧАСУ і няўцямнасцю рэальнага беларускага быцця згадкі пра 2000-годдзе Нараджэння Хрыстовага, якое ўжо так блізка, у большасці сваёй маюць дзяжурны характар. Відаць, жаданне нешта ў гэтым кантэксце асэнсаваць, азірнуцца назад, глянуць наперад за парог веку, але ўсё неяк несістэмна.

Між тым гэтая найсветлая падзея ёсць добраю нагодаю глыбей асэнсаваць крыжовы беларускі шлях. Каб не толькі чалавек як экзістэнцыйная духоўная сутнасць задумаўся, з якімі здабыткамі сустрэне ён дату, але і для краіны Беларусь як сукупнасці ўсіх нас, грэшных, больш акрэслена вызначыцца, з якім духоўным набыткам стаіць яна ля брамы новага тысячагоддзя хрысціянства. Усвядомім нарэшце — без духоўнага адраджэння не будзе і нацыянальнага.

Што да грамадскага жыцця, тут працэй. Згадаем, колькі слоў сказана, колькі артыкулаў напісана і меркаванняў выказана датычна нацыянальнай ідэі. Ад месіянска-містычнага ўсведамлення яе маладымі да аспектаў "у межах заканадаўства", як пісала "Звязда". А пасярэдзіне — грунтоўная, узважаная, гістарычна і філасофскі выверaная канцэпцыя нашага слыннага Уладзіміра Конана. Зразумела, ва ўсіх вызначэннях беларускай ідэі ёсць элемент хрысціянскага шляху. Элемент неабходны, але ці дастатковы ён? Можа, гэта якраз той камень, адкінуты будаўнікамі, што потым ляжа ў аснову падмурка?

Нататкі гэтыя не маюць мэтай грунтоўнае асэнсаванне беларускага шляху як шляху хрысціянскага, на тое трэба духоўнай моцы не аднаго чалавека. Ды і ў грэх агульшчыны ўпадаць жадання няма, яго часам аж зашмат у нашых прыватных імпрэсіях. Мэта якраз — пазначыць канкрэтныя крокі, якія для духоўнага набытку нацыі стануць, на мой погляд, на парозе 2000-годдзя значным даважкам.

Напачатку варта адзначыць, што выраз "беларускі Храм" ужываецца тут упоравень з іншымі асноўнымі дэфініцыямі нацыянальнай ідэі — "беларускі Шлях" і "беларускі Дом". Прытым кожная з іх не выключае астатнія, яны суіснуюць у адзінстве. Успомнім Караткевіча: "Гэты край — Твой дом і сабор..." ("На Беларусі Бог жыве"). Хаця зразумела, што кожная мае сваю адметнасць, сваю грань: шлях — гісторыя, дом — дзяржава, храм — узвышэнне духу.

Беларускі шлях у афіцыйнай ідэалогіі сёння занядбаны — гісторыя і традыцыі быццам і непатрэбныя, нацыянальныя сімвалы адпрэчаны. Няма і жадання дабудаваць свой беларускі Дом — хутчэй ёсць незразумелае імкненне прадаць "участак" "пры захаванні суверэнітэту"(?). Легітымным з гэтага гледзішча застаецца толькі беларускі Храм, бо часам чуваць дэкларацыі, што дзяржаўная ідэалогія грунтуецца на хрысціянскіх каштоўнасцях. Пакінем такое фарысейства на сумленні тых, хто яго чыніць. Самі ж скарыстаемся з гэтай магчымасці, не адкідаючы іншых формаў змагання за Беларусь, за нацыянальную ідэю.

У слове "змаганне" ключ да тлумачэння падзагалоўка. Сёння, акурат дзякуючы ўладзе, нацыя раз'яднана, фактычна ідзе ціхая неаб'яўленая вайна. Супольнасць раскалата на часткі, людзі трымаюцца сваіх амбіцый, партый, рухаў, ці нейтралітэту, ці сваёй апатыі, ці слугавання ўладзе і абслугоўвання яе. Сумоўя атрымацца не можа. Працягваецца таксама нябачнае вокам супрацьстаянне хрысціянскіх канфесій, асабліва галоўных з іх — праваслаўнай і каталіцкай. Кожная змагаецца за вернікаў, за пашырэнне свайго ўплыву. Прытым у большасці (станоўчыя для беларускасці выключэнні не адкідваюцца) касцёл так і застаецца спаланізаваным, а царква — зрусіфікаванай. І калі ў праваслаўных ёсць хоць нейкі аргумент — маўляў, зрусіфікавана ўсё дзяржаўнае і грамадскае жыццё, то ў касцёла і таго няма: сёння азначэнне "каталік — гэтак паляк" выглядае анахранізмам. Дарэчы, ужо даўнавата вычытаў у Анатоля Сідарэвіча, што з 1,5 мільёна беларускіх католікаў толькі каля 200 тысяч з'яўляюцца этнічнымі палякамі. З другога боку нядаўна прайшла афіцыйная інфармацыя, што каля 80 працэнтаў з усёй колькасці вернікаў на Беларусі прытрымліваюцца праваслаўя.

Ды справа не ў лічбах. Справа ў гістарычнай традыцыі мірнага суіснавання на беларускіх землях розных канфесій на падставе ўзаемнай цярпімасці. Не заўсёды талерантнасць была паслядоўнай, але ў параўнанні з краінамі Еўропы, дзе гарэлі вогнішчы інквізіцыі ды магчымыя былі варфаламееўскія ночы, наш вопыт сапраўды унікальны і сёння цікавы для свету. Зрэшты, аб гэтым шмат сказана.

Тут прапануецца канкрэтны крок, які б нават вонкава замацоўваў і выяўляў такую нашу адметнасць. Ёсць ідэя ўзвесці ў Мінску Храм хрысціянскіх канфесій. Назва гаворыць сама за сябе. Галоўны сабор краіны аднолькава належаў бы вернікам усіх плыняў хрысціянства, якія ёсць на Беларусі. Стаў бы агульнанацыянальнай святыняй. Для гэтага патрабуецца зусім няшмат — добрая воля царкоўных іерархаў (народ супраць не будзе), жаданне прыйсці да згоды. Ды яшчэ разуменне і падтрымка дзяржавы. Перад светлым юбілеем быў бы знак нашага пакаяння за міжхрысціянскія звады, гвалты ды ўцiскі, знак паяднання нацыі на грунце хрысціянскіх каштоўнасцяў.

Чамусьці запомніўся дзядзька ў праваслаўнай царкве ў Слоніме, які даглядаў храм. Сам праваслаўны, жонка каталічка. І ніхто з іх не збіраецца мяняць веру. Тыповая беларуская сітуацыя. Ёсць такія выпадкі і ў маёй вялікай сям'і. Не магу асуджаць стрыечнага брата, які католік па маці і праваслаўны па бацьку, а выбраў уніяцтва. Хаця сам да уніяцтва стаўлюся толькі як да гістарычнага факта, што мае свае часовыя рамкі ў гістарычным існаванні нашай Бацькаўшчыны, не болей. Як не кінуся ў змаганне за пляменніка, які падлеткам перайшоў у каталіцтва. Пажыццёваму зразумела — прывабілі хлопца з небагатай сям'і, але ж застаўся ён хрысціянінам, значыць, не пойдзе па шляху зла. Ці не гэта галоўнае?

Калі прыйшла думка не толькі вобразна, але і рэальна пабудаваць Беларускі Храм, згадалася Царква ўсіх нацый у Іерусаліме, адна з самых цудоўных славутасцяў вечнага горада. А сам Храм труны Гасподняй? Найвялікшая святыня для хрысціян усяго свету, дзе ёсць месца кожнаму адгалінаванню хрысціянства. Потым выпадкова даведаўся, што ў Нью-Йорку ёсць сабор Святога Яна, пабудаваны для ўсіх канфесій. У гэтым храме, узведзеным у сярэднявечным стылі, час ад часу асвячаюцца шлюбы, ладзяцца шэсці ды іншыя дзеі. Як важна адчуць, што мы ўсе хрысціяне, незалежна ад канфесій, што шляхі хоць і адрозныя, але мэта адна — спазнаць Царства нябеснае.

На заўвагі, ці не завысока ўзяў, выкажу меркаванне, што мы тут на Беларусі далёка яшчэ не пазбавіліся комплексу правінцыйнасці: каталіцызм — толькі польскі, праваслаўе — толькі рускае. Гэтая сітуацыя зразумелая і апраўданая, але трэба ўздымацца духам, верыць у свае сілы. Скажу больш канкрэтна аб праваслаўнай канфесіі. Сапраўды, мы занядбалі свае традыцыі, зацыкліліся на Расіі. Быццам іншага ў свеце і няма. Яшчэ вісіць мо і не жалезная, але заслона, якую адхіліць нестае добрай волі, а мо і проста матэрыяльных магчымасцяў. Апошняе згадваю, бо сёння ўсяго тры гадзіны лёту — і ты на Святой Зямлі, куды павінен імкнуцца кожны, каб душою дакрануцца да святынь, звязаных з зямным удзелам Збавіцеля, тым самым умацаваць дух для змагання са спакусамі і цёмнымі сіламі як унутры сябе, так і вонкі. Зусім невыпадкова святая апякунка зямлі беларускай Еўфрасіння Полацкая пад канец зямнога свайго існавання зрабіла паломніцтва ў Іерусалім. Мы проста канстатуем гэты факт, не вельмі ўсведамляючы глыбіннасці яго.

Асабліва яскрава разумеецца гэта там. Тым больш калі трапляеш на Святую Зямлю якраз на праваслаўны Вялікдзень, як пашчасціла мне пазалетась. Калі гадзін 16-17 у Храме труны Гасподняй чакаеш сашэсця Святога агню, унутраныя нашы звады ўвачавідкі драбнеюць. Ты бачыш карціну ўсяленскага Праваслаўя, бо побач прадстаўнікі ўсіх праваслаўных народаў. Найбольш грэкаў і румынаў, людзей звычайных, простых. Ці не найменей паломнікаў з Расіі, сярод якіх шмат святароў. А ўжо з Беларусі і наогул толькі мы ўтрох — напалову паломнікі, напалову працаўнікі з кінематаграфічнымі прычындаламі. Але па душы — сапраўдныя паломнікі, тры праваслаўныя беларускія хлопцы.

Мізэрнымі здаюцца і нашы зацятыя спрэчкі пра мову ў святынях, калі наўкола сапраўднае шматгалоссе, калі чуеш эмацыянальную гаворку арабаў-хрысціян, нават з воклічамі (у храме, ды якім!) у чаканні сашэсця Святога агню. Няўжо Гасподзь не разумее слоў тваіх на роднай мове, шчыра звернутых да Яго? Няўжо ёсць грэх сумнення ў моцы і бязмежнасці Яго? Калі ж адысці ад эмоцый, то існаванне нацый даўно абгрунтавана Святым Пісаннем і ў багаслоўі. Як і галоўная адметнасць народа — яго мова. Згадайма толькі, што першым Божым дарам народжанай царквы было якраз зыходжанне Святога Духа і дар моваў. Так што пакінем сумненні, папрокі і аргументы з абодвух бакоў, а супольна, саборна даробім справу, пачатую Скарынам.

Як у Храме Хрысціянскіх Канфесій будзе ісці царкоўнае жыццё — па днях, па часе ці на вялікія святы супольна — гэта ўжо пытанні тэхнічныя і вырашальныя. Абавязковая і неабходная ўмова — набажэнствы на беларускай мове. Практычна гатовы да гэтага праваслаўная, каталіцкая цэрквы, пра нашых нешматлікіх уніятаў і сумневу няма. Цяжэй сказаць з-за браку інфармацыі аб пратэстанцкіх плынях. Так само сабою развяжацца моўнае пытанне — галоўны беларускі сабор будзе прыкладам іншым храмам, прыходам, у гэтым будзе відаць праяўленне палітыкі і добрай волі царкоўнай іерархіі Беларусі.

Заўсёды будзе адчынены Храм, каб кожны чалавек у любы час змог зайсці, далучыцца да галоўнай святыні. Тут будуць ісці набажэнствы, хрышчэнне, асвячэнне шлюбу, адпяванне, словам — звычайнае жыццё храма. Архітэктурны воблік бачыцца на грунце традыцый культавага дойлідства на Беларусі. Асабіста мне як вобраз згадваюцца адразу Сынкавіцкая царква і Брацкі Багаяўленскі сабор у Магілёве (які, на жаль, не захаваўся). Ва ўнутраным аздабленні — роспісы, абразы беларускіх святых, копіі ўсіх цудатворых абразоў, шанаваных нашымі вернікамі.

Ёсць прапанова і наконт месца пабудовы, тут, як гавораць, і шукаць не трэба. Пляц Волі (былы Саборны), дзе месцілася унікальная Святадухаўская базыльянская царква, а потым Петрапаўлаўскі праваслаўны кафедральны сабор, узарваны бальшавікамі ў 1936 годзе. Як не згадаць тут цынізм савецкай бязбожнай сістэмы — на месцы храма паставілі піўніцу "Ясень", дзе мы студэнтамі ў першай палове 70-х ды і пазней пілі піва, а то і прынесенае з сабою віно ці гарэлку.

Будаваць храм трэба ўсёй грамадою, агульнымі высілкамі. Хацелася б, каб гэта стала агульнанацыянальнай справай, справай яднання. Калі не будзе браку інфармацыі, то ўсе прымуць да душы такую ідэю. Так, прынамсі, здаецца. Як здаецца, што і дзяржава не застанецца ўбаку.

Другі канкрэтны крок у накірунку беларускага Храма — укласці і выдаць "Духоўную энцыклапедыю Беларусі". Агульная духоўная спадчына — яшчэ адзін сродак яднання. Тут мо і працэй, шмат чаго ўжо напрацавана: і па постацях, і па кнігадрукаванні, і па культавым дойлідстве. У гэтай энцыклапедыі павінны быць пазначаныя ўсе нашы святыні, нават даўно зніклыя, калі хоць якія звесткі, пра іх захаваліся. Тут патрэбны агульныя намаганні прадстаўнікоў духавенства і беларускіх навукоўцаў. Часовы творчы калектыў. Недзе чуў такі выраз: "энцыклапедыя зрабіла Францыю". Нешта падобнае магло быць і ў нас — як хораша і плённа пачыналі! А зараз чарговы том энцыклапедыі выходзіць рады ў гады.

Не трэба разумець, што маецца на ўвазе ажыццявіць гэтыя два праекты сёлета, да 2000-годдзя Нараджэння Хрыстовага. Занадта яны маштабныя, працаёмкія і нятанныя. Добра было б, да прыкладу, хоць камень у падмурак закласці на парозе новага веку хрысціянства.

А вось трэцяя ідэя, трэці крок рэальны якраз сёння. Згадваючы даўнюю нашу народную хрысціянскую традыцыю, прапаную паставіць на межах Беларусі крыжы-абярэгі. Хаця б на магістралях, ля вялікіх дарог. Калі кінуць беглым вокам на карту Беларусі, такіх кропак будзе каля дваццаці.

Звычай узводзіць крыжы на ростанях склаўся даўно, не за нашую памяць, як гавораць, каб засцерагчыся ад няшчасцяў і злых духаў ды ў крызісных сітуацыях — хваробы, войны, эпідэміі. Ставілі іх па зароку за адну ноч. А чым сёння не крызісная сітуацыя, нават не згадваючы ўжо былыя дзесяцігоддзі бязбожнай савецкай улады? Ці не кожны дзень можна прачытаць у друку пра наркотыкі, нелегальную эміграцыю, нечуваныя злачынствы. Здаецца, калючым дротам адгарадзіў бы сваю Беларусь ад жорсткага свету. Хаця разумееш, што гэта нерэальна ды непатрэбна ў той час, як бачныя межы ў Еўропе знікаюць. Хай будуць празрыстымі яны і ў нас, але для харошых людзей, што едуць са светлымі намерамі і добрай воляй. Такім крыж ля дарогі будзе якраз прыветным знакам. Нам жа як гаспадарам такая акцыя — яшчэ адзін сродак яднання, знак узвышэння духу. Форма крыжа павінна здавальняць усе хрысціянскія канфесіі, такою бачыцца патрыяршы крыж, як на старадаўнім гербе нашым Пагоня.

Рабіць усё трэба згодна традыцыі — выраблць крыж за адну ноч, за ноч жа напрасці кудзелі і выткаць аброчныя тканіны для ўпрыгожання — ахвярныя дары (антрапеі) дададуць духоўнай моцы. Акцыя была б вельмі дарэчы 27 верасня, на свята Уздзвіжання Пачэснага і Жыццятворнага Крыжа. Ва ўсіх месцах у адзін дзень. Веру: адразу стане ўтульней на Беларусі, якая стаіць на сямі еўрапейскіх вятрах. Крыж — знак Божай любові, бо якраз любоў да чалавека, які гіне ў грахах, прывяла Сына Божага на крыж. Цяплей стане на душы ад таго, што шляхі нашыя пазначаны знакамі любові. засцярогі і заступніцтва.

**Уладзімір МАРОЗ**

# З'езд беларусаў Расіі

Напрыканцы сакавіка ў Маскве, у памяшканні Цэнтральнага Дома літаратара адбыўся Устаноўчы з'езд прадстаўнікоў беларускіх суполак Расіі, на якім абвешчана стварэнне новай арганізацыі — Міжрэгіянальнага аб'яднання беларусаў Расіі. Ініцыятарам з'езду стала адна са старэйшых беларускіх суполак у Расіі — Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Ф.Скарыны. Удзел у мерапрыемстве прынялі беларусы з розных рэгіёнаў Расіі (Масквы, Санкт-Пецярбурга, Іркуцка, Краснаярска, Сургута і інш.), а таксама госці з Мінска — прадстаўнікі згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і вядомыя палітыкі — Станіслаў Шушкевіч, Сямён Домаш. З'езд прыняў Статут аб'яднання і абраў кіруючы орган — Раду, на чале са старшынёй Таварыства беларускай мовы сп.Генадзем Лехам.

Асноўныя мэты новай структуры заключаюцца ў тым, каб не толькі аб'яднаць сілы беларускіх суполак Расіі дзеля захавання і развіцця нацыянальнай культуры, але і каардынаваць іх дзейнасць, аказваць узаемную дапамогу, ладзіць сумесныя кантакты з Беларуссю, прадстаўляць інтарэсы беларусаў у Расіі перад дзяржаўнымі ўладамі Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь.

Мерапрыемства было прыгожа аздоблена культурнай праграмай, якую склалі выступленні фальклорнага гурта "Алеся" з Масквы, а таксама вядомых майстроў бардаўскай песні з Беларусі — Віктара Шалкевіча і Зміцера Бартосіка.

# Дзярждэпартамент ЗША выказаў сур'ёзную заклапочанасць у сувязі з затрыманнем беларускімі ўладамі Міхаіла Чыгіра



Да неадкладнага вызвалення былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра і да пачатку дыялога з апазіцыяй і іншымі сацыяльнымі групамі, якія выступаюць у абарону дэмакратыі і правоў чалавека заклікаў беларускія ўлады афіцыйны Вашынгтон. У заяве прэс-сакратара Дзярждэпартамента ЗША Джэймса Рубіна адзначаецца, што "арышт М.Чыгіра ў кантэксце ўзрастаючага запалохвання прыхільнікаў апазіцыі ў апошнія тыдні накіраваны, як уяўляецца, на ўдушэнне незалежнай думкі і дзеянняў у Беларусі". Спадар Рубін выказаў "глыбокую занепакоенасць развіццём падзеяў у Беларусі". З гэтай нагоды Дзярждэпартамент заклікаў кіраўніцтва рэспублікі "прытрымлівацца сваіх міжнародных абавязацельстваў, уключаючы павагу да свабоды самавыяўлення, прынцыпаў АБСЕ і іншых міжнародна прызнаных правоў". Пачатак дыялога ўладаў Беларусі з апазіцыяй па выхадзе з канстытуцыйнага крызісу, які стаў вынікам рэферэндуму 1996 года, змог бы палепшыць палітычную сітуацыю ў краіне, заявіў Джэймс Рубін.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН.**

Вячаслаў ОРГІШ, доктар філасофіі



# ЧАС «ІКС»

"Чорны" панядзелак 17-га жніўня мінулага году як для крамлёўска-лубянскай намэнклятуры, так і для прэзыдэнта Беларусі Лукашэнкі зьявіўся сыгналам, каб фарсаваць "аб'яднальную" апэрацыю. Стала відавочным, што далей пускаць людзям дым у вочы, нібыта расейска-беларускае аб'яднаньне пральецца на іх галовы маннай нябеснай, ня ўдасца. Беларуская фінансава-эканамічная сыстэма, якую Лукашэнка наглуха прывязаў да Расеі, зазнала той-жа шок абвальнага падзеньня, што і яе расейская напарніца. Пачалася імклівая інфляцыя, якая імгненна апусьціла жыцьцёвы ўзровень большасьці людзей да вельмі нізкага ўзроўню. Беларускі абывацель на сваёй скуры пераканаўся, што аб'яднаньне з усходняй суседкай яго не накорміць, затое бардака ў яго дом прынясе з лішкам.

## ЭЛЕКТАРАТ ПАЙШОЎ "НЕ ТУДЫ"

Восеньскія сацыялагічныя дасьледваньні выявілі, што грамадзкія настроі ў падтрымку збліжэньня з Расеяй прыкметна зьнізіліся. Так, верасьнёўскае апытаньне, праведзенае сацыёлагамі НІСЭШ, устанавіла, што тых, хто лічыць узровень жыцьця ў Расеі вышэйшы, чымсьці ў Беларусі, стала меней у тры разы. Адпаведна ў 16 разоў павялічылася колькасьць тых, хто лічыць, што рускія жывуць горш за беларусаў. За аб'яднаньне ў адну дзяржаву выказалася толькі 20,1% беларусаў. У кастрычніку нацыянальнае апытаньне правяла Сацыялагічная лабараторыя СЭІС, абпаведна якому тры пятых беларускага насельніцтва аддаюць перавагу жыцьцю ў незалежнай Беларусі, і толькі 13% рэспадэнтаў не падтрымліваюць ідэі нацыянальнай незалежнасьці. Пры гэтым 50% выказалася за цеснае супрацоўніцтва незалежнай Беларусі з заходнімі краінамі і толькі 19% — супроць.

"Трывожная" карціна беларускай грамадзкай думкі не магла не застаць незаўважанай расейска-беларускімі "інтэгратарамі". Яна-ж і прымусіла іх сьпяшыць. Паколькі чакаць паляпшэньня эканамічнай і сацыяльна-палітычнай сытуацыі было-б наіўна, крэмлёўска-лубянскія стратэгі па-ленінску вырашылі, што марудзіць нельга. Не выпадкова свой першы візыт у ранзе прэм'ер-міністра шавініст-акадэмік Прымакоў нанёс менавіта ў Менск.

Фарсаваць апэрацыю з беларускім калідорам быў самы час, бо ўвосень найбольш важныя пасты ў расейскай дзяржаве і абкружэньні Ельцына занялі кадры, якія выйшлі з сьценаў спецслужбаў. Для крамлёўскалубянскіх інтэгратараў наступіў час "Ікс". А. Лукашэнка перастаноўкі ў вышэйшых эшалонах расейскай улады ўспрыняў як сыгнал да рашучай атакі, каб прарвацца на расейскую палітычную сцэну.

## КАДРАВАЯ РАКІРОЎКА

Калі ў сьнежні мінулага году Лукашэнка зьняў міністра замежных справаў Антановіча, некаторыя журналісты загаварылі пра тое, што бацька, нарэшце, зразумеў шкоднасьць безаглядная арыентацыі на Расею і цяпер прагне паляпшэньня адносін з Захадам.

У сапраўднасьці ўсё было зусім наадварот. Замена Антановіча на Ўрала Рамдракавіча Латыпава мела падвойна тэхналагічны сэнс. Па ўсіх паказчыках падыходзіў Іван Іванавіч Антановіч, акрамя аднаго. Ён ня быў так цесна інтэграваны ў практыку спецслужбаў, як таго патрабавала сытуацыя. Ён быў сваім, але ня быў прафесійным чэкістам, не зьяўляўся да канца "паімфармаваны". Цяпер, калі апэрацыя ўступіла ў рашаючую стадыю, Маскве і Лукашэнку спатрэбіўся чалавек выключна свайго цэху, які-б каардынаваў і прасоўваў аб'яднальную палітыку не па адных дыпляматычных каналах, а мэтадамі і сродкамі тайнага ведамства. Вылучэньне Латыпава было не выпадковым эпізодам, а добра прадуманай ракіроўкай, у выніку якой палкоўнік, што да часу заставаўся ў цені, апынуўся ў цэнтры ўсёй інтэграцыйнай работы, стаў яе куратарам на месцы.

Дзеля таго, каб прасьцей было ўсё звязаць расейскім вузлом, пад кіраўніцтва Латыпава аддалі, апрача міністэрства замежных справаў, міністэрства замежнага гандлю і міністэрства па справах СНГ. Такім чынам усе найважнейшыя сфэры жыцьця беларускага грамадзтва трапілі пад непасрэдны кантроль "кампэтэнтных" інстанцыяў. Цяпер беларуская эканоміка, 80% імпартна-экспартных патокаў якой зьвязаны з Расеяй, будуць рэгуляваца і накіроўвацца ня толькі ўрадам Беларусі. Крэмлёўска-лубянскія лялькаводы ўзялі ў свае рукі самыя моцныя рычагі палітычнага і эканамічнага ціску на Беларусь, з дапамогай якіх яны разьлічваюць на канчатковую інкарпарацыю.

Тая-ж мэта ў падпісанай Ельцыным і Лукашэнкам так званай "Дэклярацыі аб яднаньні". Пра сапраўдныя прычыны яе зьяўленьня цынічна паведаміў адзін з галоўных праектантаў "яднаньня", дарадчык Крамля па пытаньнях вялікадзяржаўнай рэстаўрацыі спадар Караганаў. Выступаючы па тэлевізыйным канале НТВ, ён беспардонна заявіў, што Расеі "патрэбны беларускі калідор" у процівагу Ўкраіне, праз якую цяжкавата ідзе расейскі транзіт на Захад. Ён лічыць, што цягнуць з далучэньнем Беларусі толькі таму, што гэта будзе дорага, аніяк нельга: заўтра аб'яднаньне будзе каштаваць яшчэ даражэй, а займацца ім усё роўна давядзецца. Як кажуць у такіх выпадках, камэнтарыі непатрэбныя.

## БОЙЦЕСЯ ДАНАЙЦАЎ, ШТО ПРЫНОСЯЦЬ ДАРЫ.

Пазыцыя Лукашэнкі ў гэтай небясьпечнай палітычнай інтрызе пад назвай "аб'яднаньне рускага і беларускага народаў", яго настойлівае імкненьне ўвайсьці ў расейскую палітыку ў якасьці прэтэндэнта на вышэйшую ўладу, вельмі часта выклікаюць рэакцыю, якую можна падсумаваць так: "Куды ён лезе, Расея не па яго зубах, там ён зломіць сабе шыю". Большасьць палітолагаў сыходзяцца на тым, што ў расейскай палітычнай зграі яго проста загрызуць як чужака і выскачку. "Нашаму-б цяляці ды воўка спаймаці", — іранізуюць яны. Аналітыкі лічаць, што расейскія эліты даўно ўжо разабралі ўсе электаратныя дзялянкі. У Расеі мае шанцы перамагчы сыстэмны палітык. Чалавека з боку палітычны клас аніяк ня прыме.

У такіх меркаваньнях усё верна, апрача аднаго. Маскоўская палітычная тусоўка і сапраўды не рызыкне паставіць на "іншародца". Аднак у расейскім палітычным сьвеце дзейнічае яшчэ і не публічная, але вельмі дзейсная і ўплывовая частка эліты, пра намеры і магчымасьці якой аналітыкі нярэдка забываюць. Гэта прадстаўнікі наменклятуры, спецслужбаў, міністэрства ўнутраных спраў, арміі, якія незадаволены палітычнымі працэсамі ў краіне і яшчэ не абралі фаварыта з ліку ўнутрырасейскіх дзеячоў.

Яны прывыклі дзейнічаць закулісна і маюць сваіх людзей практычна ва ўсіх слаях грамадзтва. Яны хацелі-б кіраваць Расеяй, зыходзячы з уласнага разуменьня і даступных ім сродкаў (пераважна сілавых).

Як відаць, аніхто з цяперашніх сыстэмных палітыкаў, што прэтэндуюць на крэсла ў Крамлі, поўнасьцю гэту частку эліты не задавальняе, бо кожны з іх зьвязаны сваімі партыйнымі і групавымі абавязкамі і не захоча праводзіць адпаведную лінію. Такой эліце патрэбны прэтэндэнт на ўладу ў Маскве, якім можна было-б маніпуляваць, стоячы за ягонай сьпіной. Іх патрабаваньням адпавядае пазасыстэмны палітык — такі "чорт з табакеркі". Калі ён прыйдзе да ўлады, ён будзе абапірацца толькі на тых, хто прывёў яго да яе.

Карацей, для закуліснай часткі расейскай эліты Лукашэнка, хутчэй за ўсё, і ёсьць "свой", той самы фаварыт, якога яны не знаходзяць сярод расейскіх прэтэндэнтаў. Ягоная "самаадданая" дзейнасьць па далучэньні да Расеі беларускага калідору ёсьць для яго, як прэтэндэнта на ўладу ў Крамлі, найлепшая характарыстыка. Лукашэнка, безумоўна, адданы ідэі расейскай вялікадзяржаўнасьці, славянафіл, апантаны імкненьнем аб'яднаць пад началам "старэйшага" брата беларусаў і ўкраінцаў, пагарджае дэмакратыяй, схільны да сілавых мэтадаў вырашэньня дзяржаўных пытаньняў, сьмела спальвае за сабой масты ў сябе дома. На расейскім палітычным ладшафце ён будзе адзінокім каралём, які міжволі стане заложнікам сьвіты.

Трэба меркаваць, што падчас сустрэч са сваімі расейскімі аднадумцамі-інтэгратарамі Лукашэнка абмяркоўвае ня толькі дэталі стварэньня АДРБ (аб'яднанай дзяржавы Расеі і Беларусі). Няма сумненьня, што адным з галоўных было пытаньне аб пераходзе Лукашэнкі ў расейскую палітыку, аб надзейных гарантыях падтрымкі яго пэрсанальных палітычных інтарэсаў з боку крэмлёўскалубянскага кіраўніцтва. Безумоўна, такія гарантыі былі атрыманы. Наступны крок, як здаецца, павінен зрабіць расейскі бок: даць беларусам права выбірацца і быць абранымі на найвышэйшую рускую дзяржаўную пасаду.

Высакамерныя расейскія палітыкі, напэўна, зьдзекліва пасьмейваюцца: "суконнае рыла" лезе ў іхні калачны рад. Сьмяяцца, вядома, можна, толькі як-бы плакаць не давялося. У Беларусі ў 1994 годзе таксама многія пасьмейваліся, але цяпер локці кусаюць. Расейскія палітыкі забываюць, што Лукашэнка ў іх вачах і ў вачах масавага выбаршчыка — гэта, як кажуць у Адэсе, дзьве вялікія розьніцы. Для першых ён — калгасьнік, для другіх ён — свой. Сакрэт яго пасьпяховага папулізму ў тым, што ён не тэатральна, а на самой справе належыць да большасьці і яна ахвотна галасуе за свайго.

Так што зусім ня факт, быццам у Лукашэнкі няма аніякіх пэрспектываў паруліць ва ўсерасейскім маштабе. Але-ж што набудзе Расея, згубіць Беларусь. І дзякуй Богу.

## ТРЫ АКСІЁМЫ

Няўдачы дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі тлумачацца ня толькі тым, што яна пасыўная, не аб'яднаная і нерашучая, ня мае трывалага нацыянальнага імунітэту супроць інтэлектуальных і культурных стэрэатыпаў "старэйшага" брата, што скоўваюць яе. Апазыцыя яшчэ да гэтага часу не асэнсавала, што ёй супрацьстаіць не Лукашэнка, дакладней ня толькі ён і яго каманда, а праціўнік намнога болей моцны і каварны, імя яму — расейская імпэрыя. Менавіта гэта меў на ўвазе З. Пазьняк у сваім нашумелым артыкуле "Пра рускі імпэрыялізм і яго небясьпеку" і гэта не пажадала зразумець большая частка беларускай грамадзкасьці. Лукашэнка і каманда — толькі працяг і відавочнае ўвасабленьне той экспансыўнай палітыкі, якую праводзіць расейскі эстаблішмэнт у адносінах да беларускай дзяржавы.

Вялікі сын Беларусі, кіраўнік паўстаньня 1863 году супраць расейскага цара, Кастусь Каліноўскі, чакаючы выкананьня сьмяротнага прысуду, напісаў прарочы зварот да свайго народу: "Вы ня знойдзеце шчасьця да таго часу, пакуль расейцы будуць гаспадарамі на вашай зямлі..." Сёньня гэтая думка — аксіёма нумар адзін.

Тое, што афіцыйная прапаганда Масквы і Менску малюе як "няўхільнае збліжэньне двух братніх народаў", ёсьць адно толькі планамернае разбурэньне беларускага дзяржаўнага сувэрэнітэту, якое рыхтуецца і ажыцьцяўляецца імпэрыялістычнымі сіламі Расеі пры актыўным удзеле беларускіх калабарантаў і камуністычнай "пятай калоны". У выніку паглынаньня Беларусі і агрэсыўная расейская дзяржава, якая мае другі па моцнасьці запас ядзернае зброі ў сьвеце, пасунецца на некалькі сотняў кілямэтраў на Захад, што створыць пагрозу эўрапейскай бясьпецы. Канчатковая мэта так званага "добраахвотнага аб'яднаньня", якое навязваецца беларусам, — гэта ліквідацыя беларускай дзяржавы, уключэньне нашай краіны ў склад узнаўляемай расейскай імпэрыі і наступная асыміляцыя беларускага народу расейскім этна-культурным кангламэратам. Таму ўсе патрыятычныя сілы беларускага грамадзтва, беларуская інтэлігенцыя, палітычныя партыі, якія адчуваюць сваю адказнасьць за нацыянальны і гістарычны лёс Беларусі, якія разумеюць самабытную каштоўнасьць яе духоўнасьці і культуры для эўрапейскай і сусьветнай цывілізацыі, павінны згуртавацца вакол заклiку: "Беларуская Айчына ў небясьпецы!" Барацьба за дзяржаўны і нацыянальны сувэрэнітэт нашай бацькаўшчыны зьяўляецца прыярытэтнай задачай сёньня. Гэта аксіёма нумар два.

Небясьпека сувэрэнітэту і нацыянальнай самабытнасьці суседніх краінаў, якую нясе вялікадзяржаўная імпэрская палітыка расейскага Галіяфа, ня зьменшыцца, пакуль, гаворачы словамі Маркса, у Расеі на месца "ўяўнай цывілізацыі" гістарычны працэс не паставіць "сапраўдную і ўсеагульную цывілізацыю". Інакш кажучы, пакуль гісторыя не разбурыць імпэрыю і не створыць замест яе адкрытае дэмакратычнае грамадзтва. "Расея, — як трапна заўважыў вядомы расейскі гісторык Юрый Афанасьеў, — заўсёды жыла заваёвамі, далучаючы новыя землі... У гісторыі Расеі не было нават аднаго працяглага перыяду без войнаў... Заваёўвалі або абараняліся. І ніколі ня думалі пра тое, як лепей адбудаваць гэтыя тэрыторыі, а толькі як найболей іх захапіць". Так было, так ёсьць і так будзе, пакуль расейскі імпэрыялізм здольны дыхаць і варушыцца. Гэта аксіёма нумар тры.

## ХОПІЦЬ СПАЦЬ!

Нажаль, беларуская нацыянальна дэмакратычная апазыцыя пастаянна спазьняецца рэагаваць на падзеі. Ствараецца ўражаньне, што яе задавальняе весьці ар'ергардныя бойкі, змагацца з рэжымам, не вылазячы з дамашніх тапак. З. Пазьняк у эміграцыі, і агрэсыўны наступ апазыцыі нібы зьнік. Апазыцыйныя дзеячы тэатральна разводзяць рукамі: што мы можам зрабіць, калі рэжым такі несумленны і вераломны. Шаноўныя спадары! Цяжка вам — саступіце дарогу маладым, але не ганьбіце сябе перад народам і сусьветным супольніцтвам. Не народ, а менавіта апазыцыя сваімі кволымі рэакцыямі стварае ў вачах сусьветнай грамадзкай думкі вобраз Беларусі бязвольнай, гатовай да любых палітычных зьдзекаў над сабой. Усходні сусед паступова захоплівае беларускі калідор ужо ня першы год. Тым ня меней апазыцыя да гэтага часу рабіла выгляд, нібыта можна знайсьці такое рашэньне праблемы бясьпекі нацыянальнага дому, што і ваўкі будуць сытыя і авечкі цэлыя. Дачакаліся, калі мэблю сталі выносіць.

У гэтай сытуацыі патрэбна мабілізацыя ўсіх наяўных рэ-

сурсаў палітычнага, грамадзянскага супраціўленьня курсу ўлады на ліквідацыю беларускага сувэрэнітэту. Вярхоўны Савет 13-га скліка765ньня павінен даць недвусэнсовую ацэнку "аб'яднальным" гульням. Трэба на ўвесь голас заявіць, што ўсё, падпісанае Беларусьсю і Расеяй наконт "аб'яднаньня", "адзінства", "уз'яднаньня", зьяўляецца грубым парушэньнем сувэрэнітэту, нашай Канстытуцыі, ёсьць незаконнае і не павінна прызнаваца міжнароднымі супольніцтвамі. Гэта дапаможа таму-ж Захаду заняць у адносінах да "аб'яднальнай" палітыкі прынцыповую пазыцыю актыўнага неўспрыйманьня і мэтанакіравана падтрымліваць тых, хто супраць яе.

Час безагляднага ўхваленьня насельніцтвам курсу Лукашэнкі мінае, аб гэтым сьведчаць сацыялагічныя апытаньні. Апазыцыйным партыям варта было-б распачаць незалежны штомесячны маніторынг грамадзкай думкі па пытаньнях аб'яднаньня з Расеяй, якое навязваецца ўладай, і вынікі яго друкаваць у выглядзе асобнага бюлетэню. Міф пра няўхільнае імкненьне беларусаў у абдымкі Расеі павінен быць развенчаны як мага хутчэй і як мага гучней.

Мабілізацыя шырокай грамадзкасьці на барацьбу з антынацыянальнай палітыкай рэжыму — справа для апазыцыйных партыяў найбольш клапотная і складаная. Але-ж яе трэба рабіць найхутчэй і як мага маштабна. Дзеля гэтага ёсьць яшчэ пэўныя рэсурсы. Адзін з іх — незалежныя прафсаюзы, якія маюць непасрэдныя сувязі з рознымі групамі працоўных, з нязгодным з уладай электаратам і могуць дапамагчы арганізаваць масавыя акцыі пратэсту. На Кангрэсе Дэмакратычных Сілаў, які нядаўна адбыўся ў Менску і ў якім прынялі ўдзел лідэры незалежных прафсаюзаў, зроблены першы рэальны крок, каб аб'яднаць палітычную барацьбу з эканамічнай барацьбой працоўных. Аднак павінны быць зроблены і другі і наступныя крокі, якія прывядуць да шырокага агульнанароднага Супраціўленьня калабаранцкаму палітычнаму курсу цяперашняй беларускай улады.

Ня трэба апускаць рукі. Час працуе на нас. Імпэрыя абавязкова рухне. Але зараз важна ўтрымацца на ўласных нагах, ня трапіць у яе сьмяротныя абдымкі, каб ня рухнуць разам з ёй.

## Прыйшла пара

*Нас рабуюць — мы маўчым,*
*Каравул мы не крычым.*
*Спрытна хлусяць — верым ім,*
*Хітрым ідалам сваім.*
*А дабра усё няма,*
*Спрэс працуем задарма.*
*Мільянеры-жабракі,*
*Праклінаем лёс такі.*
*Мо прыспела нам пара*
*Выбраць зноў правадыра?*
*Гаспадар каб быў не хлус*
*І сапраўдны беларус!*

**Георгій КЛІКУНОЎ,**
**жыхар вёскі Шарсцін**
**Веткаўскага раёна.**



Б. Цімашэнка, (Львоў, Украіна)

# ЗА ШТО БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ, ТАК ЛЮБЯЦЬ СВОЙ НАРОД?

ПАГЛЯД

Народ, мабыць самае вялікае слова, ад імя, і ва імя якога робіцца ня толькі ўсе велічныя справы гісторыі, але і ўсе людзкія паскудзтвы. "Адзінка — нуль", — пісаў, калісь пявун рэвалюцыі. Складзіце шмат нулёў, усёроўна атрымаецца нуль. А вось які ўтвараецца фэнамен, калі ўперадзе нулёў паставіць адзінку, атрымліваецца сіла, якая здольна зьмясціць дзяржавы і імпэрыі. І тут усё залежыць ад чалавечай якасьці гэтай адзінкі. Ленін, па свайму разуменьню, хацеў пабудаваць камуністычны рай для пралетарыяў плянэты. Аказалася, што мы збочылі, амаль на стагодзьдзе ад магістральнага шляху чалавецтва, і прыйшлі ў нікуды, а зараз трэба вяртацца. Сталін і Гітлер хацелі для сваіх народаў зрабіць сусьветнае "господство", а атрымалі сусьветную бойню гэтых народаў. Будавалі сацыялістычны лягер, атрымалі зону Гулагу. Лідэры апошніх дзесяцігодзьдзяў, у выніку савецкага экспэрыменту стварылі новую гістарычную мадэль чалавека, новую агульнасьць людзей — савецкі народ, які трапіў ва ўсе тупікі гісторыі, і аказаўся няздатным, без дапамогі Захада, выйсьці з гэтага тупіка.

І яшчэ аб адным моманце, — доўгія часы ў нас дзейнічаў няпісаны закон, дзе-хто і сёньня так лічыць, што аб народзе, як аб пакойніку, можна гаварыць, альбо добра, альбо аніяк. А народ-жа жывы, у ём ёсьць і геніі і зладзеі, і мяшчане і падзьвіжнікі, і лайдакі і гаспадары, і патрыёты і адшчапенцы, — усё ёсьць у народзе. І трэба рэчы называць сваімі імёнамі, бязлітасна змагацца з тым, што шкодзіць здароўю і гонару нацыі, што падрывае яе нацыянальную годнасьць, — толькі так можна пасапраўднаму любіць свой народ. Народ заўсёды правы — формула не дасканалая.

Менавіта, беларусы, як самы савецкі народ, аб якім яшчэ М. Хрушчоў казаў папракаючы латышоў, — "бярыце прыклад з беларусаў, яны першыя прыйдуць у камунізм", натыкаючыся на тыя самыя граблі, зноў паверылі правадыру і ягоным абяцанкам, загнаць беларускі народ у шчасьлівую будучыню сваім шляхам.

Так, лістападаўскі рэфэрэндум 1996 году ад 70 да 80,14% падтрымаў усе задумкі і пажаданьні прэзыдэнта, тым самым даўшы згоду на новы экспэрымэнт. А тыя 10-20%, што не пагадзіліся быць віньцікамі і бачаць, што гэта шлях назад, дык гэта-ж "ворагі народа", і што з імі рабіць добра ведаюць улады. Савецкі гістарычны вопыт ня толькі не забыты, але і ўдасканалены.

Дык чаму-ж не любіць такі народ? І тут прэзыдэнт шчыры, калі кажа, што лепшага народу ў сьвеце няма, — таму што толькі і выключна ён у наш час можа так развязаць рукі дыктатару.

Колькі прывабных рысаў прыпісана нашаму народу з боку яго блізкіх і далёкіх суседзяў — народаў братоў. Ён і цярплівы і рахманы, жылаваты і мужны, гасьцінны і лявучы, таленавіты і гэтак далей, адным словам — добрыя людзі. І ўсё гэта не перабольшана, і ўсё гэта так, ён як усе іншыя народы — Божы народ. Але ня гэта галоўнае ў сучаснай любові ўладаў. Галоўная крыніца такой любові знаходзіцца, як і належыць крыніцы, у глыбіні, — гэта маральны дух, духоўны нораў грамадзтва.

Камуністычная мараль, як і камуністы, здаецца, існавалі заўсёды, нават у першабытнапляменным грамадзтве, бо ў іхным уяўленьні дасканалае грамадзтва — гэта грамадзтва бедных і ўбогіх. Дасягненьне роўнасьці ў галоце, вось адзіны іх ідэал.

"Шчасьлівыя ўбогія духам, бо іх ёсьць Царства Нябеснае" — гаворыць Евангельле ад Мацьвея. "Рабы, якія пад ярмом жывуць, павінны ганараваць гаспадароў сваіх як годных усялякае пашаны, каб не было наганы імю Божаму і вучэньню". /Да Цімафея/.

Усьлед за Цыцаронам С. Будны паўтараў: "Хто ня ведае таго, што дзеялася на сьвеце даўней, той заўсёды будзе рабом".

Вось якая даўніна сярэднявечча так моцна ўелася ў душу беларускага народу. Дык можа варта хутчэй адкінуць такі спадак і лепей задумаца над велічнымі старонкамі нашай гісторыі. Казаў-жа, калісь, Кастусь Каліноўскі з-пад шыбеніцы аб тым, што ніколі ня будзе вольным беларускі народ пад маскалём. Дык ня верым толькі таму, што новы ўладар кажа, што наша воля, як бяссьмерце Кашчэя, знаходзіцца дзесь у складзе Расеі.

Прызнаная ў сьвеце мілагучная мова нашых продкаў, матчына мова, перашкаджае інтэграваца і таму трэба яе зноў запіхнуць на задворкі, бо на ёй нічога вялікага, падразумеваецца на ўсю Расею, ня можна выказаць. Так лічыць правадыр, — і мы згаджаемся, маўчым і гаворым на мове мутантаў, як кажуць людзі, ні к сялу, ні к гораду.

Трэба зразумець, што малыя нацыі вызваляюцца з пад улады вялікіх не за рахунак дабрадзейнасьці апошніх... І калі гэта адбываецца без жорсткай барацьбы і крыві, то гэта ня што іншае, як выключна лагодны склад абставін... Таму, інтэграцыя ці асыміляцыя з іншымі дзяржавамі пярэчыць законам гісторыі і рана ці позна адгукнецца непапраўнымі стратамі. Толькі шляхам нацыянальнага развіцця большасьць народаў і нацыяў ідуць да агульнасусьветнага чалавецтва. Тое-ж што робіцца сёньня на Беларусі, добра бачыў яшчэ ў 16-м стагодзьдзі асьветнік і філосаф Сымон Будны. ..."Кароль ці пан правіў зямлёю, чыніў справядлівы суд, захоўваў спакой для падданых, а яны слухаліся свайго караля ці пана, шанавалі яго, рабілі яму усялякую карысьць. Але чорт не перастае перайначваць Божыя пастановы і схіляць каралёў і паноў да тыраніі. Трапіўшы ў д'яблавы лапы, яны заганяюць людзей пад свае тыранства, выцягваюць з падданых невыносныя падаткі, патрабуюць цяжкай службы і абыходзяцца з імі неверагодна жорстка". Дык ці-ж гэта не пра нас сёньняшніх? Ці не такога народу хочуць улады, ці не такое грамадзтва будуецца? Пры гэтым, відавочна, што харызматызм беларускага лідэра генэтычна не базуецца на беларускай мэнтальнасьці. Ён, ну аніяк не падходзіць па сваёй талерантнасьці мяккаму і сьціпламу беларускаму народу. Па сваім характары ён хутчэй гарачы каўказец, ці тэмпераментны цыган, што ніяк не ўмаляе яго чалавечай годнасьці... Я толькі хачу сказаць тое, што гэта не беларуская рыса характару. Ня дзіўна, што ні адна з прадвыбарных яго абяцанак не выканана. Народ даведзены да краю. Замест запушчаных заводаў, запусьціліся, хіба што, каровы ды куры. Карупцыя, на барацьбе з якой уехаў першы прэзыдэнт у сваё крэсла, разраслася, як ракавая пухліна. Чынавенства ўзрасло ў 2 разы і ўсё болей наглее. Жыцьцёвы ўзровень людзей беспрасьветна падае. Але-ж да перадвыбарных абяцанак людзі прывыклі, як к музыкам на вясельлі. І тое, што пра іх забываюць на другі дзень, таксама... Справа нават не ў гэтым. Ня можна безболезна выйсьці з такога палітычнага землятрусу, як абвал Савецкай імпэрыі. Як гэта не парадаксальна гучыць, на маю думку, аснаўная страта для беларускага народу не спад прамысловасьці, не жабрацкі стан большасьці людзей, а страта нацыянальнай сьвядомасьці, падмена паняцьця патрыятызму. Гэта адзіны стрыжань нацыі, без якога немагчымы ні Незалежнасьць ні Сувэрэнітэт, ні Адраджэньне. Без нацыянальнага самаразьвіцьця няма шляху да ўсеагульнага чалавецтва. Без усьведамленьня і набыцьця сваёй нацыянальнай годнасьці не патрэбны мы ні Эўропе, ні чалавецтву, ні сьвету.

# Вольная хваля з Польшчы

**Польская Нацыянальная рада па тэлебачанні і радыё падтрымала заяўку беластоцкай фірмы «Racja» на права вяшчаць на ультракароткіх хвалях.**

Як мы паведамлялі, у Польшчы рыхтуецца да адкрыцця радыё пад рабочай назвай «Вольная Беларусь». У мінулы панядзелак з'явіліся новыя звесткі пра гэты праект.

Шэф Нацыянальнай рады па тэлебачанні і радыё Балеслаў Сулік у інтэрв'ю *«Gazecie Wyborczej»* паведаміў, што рашэнне было прынятае аднагалосна, і беларускае насельніцтва Беласточчыны нарэшце будзе мець сваё радыё. Магутнасць перадатчыка дастатковая, каб станцыю было чутно ў Мінску. Але трансляцыя пачнецца не так хутка. Для таго, каб атрымаць ліцэнзію на вяшчанне, *«Racji»* прыйдзецца яшчэ правесці шэраг розных тэхнічных узгадненняў з міністэрствам сувязі, што можа заняць некалькі месяцаў.

Карэспандэнт *«Gazety Wyborczej»* пацікавіўся, ці не стане гэтае радыё для грамадзянаў Беларусі тым, чым было для палякаў радыё «Свабода». Сп.Сулік не звязвае адкрыццё беларускага радыё з палітыкай. Палітычным актам з ягонага боку было б, наадварот, не даць дазволу на права вяшчання. Ягоная Рада не залежыць ад урада, яна выдае такія ліцэнзіі польскім грамадзянам і фірмам амаль штотыдзень. Новае радыё будзе мець інфармацыйна-культурную арыентацыю. Але няма сумнення, што яно дапаможа развіццю дэмакратыі ў Беларусі, як любая іншая крыніца незалежнай інфармацыі.

Фірма *«Racja»* — камерцыйнае прадпрыемства, кантрольны пакет якога мае Саюз беларусаў у Польшчы. Кіраўнік фірмы Яўген Вапа падкрэсліў, што радыё будзе адрасаванае беларускай нацменшасці ў Польшчы. Удзельнік гэтага праекта Віктар Стахвюк, адзін з заснавальнікаў на пачатку 90-х гадоў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Польшчы, не хавае, што яны заўсёды супрацоўнічалі з апазіцыяй у Беларусі і не маюць намераў спыняць гэтае супрацоўніцтва на радыё *«Racja»*. Фінансавацца праект будзе з уласных сродкаў фірмы *«Racja»*. Трансляцыя будзе весціся на беларускай мове, спачатку дзве гадзіны ў дзень, а потым кругласутачна.

**П.Ж.**



— Чэсна гавару, будет тебе и стойло, и солома в стойле.

## Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў Чыкага

**У нядзелю, 28-га сакавіка, Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада ў Чыкага ладзіла ўрачыстае сьвяткаваньне 81-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — дня 25-га Сакавіка. Урачыстасьць адбылася ў Беларускай Праваслаўнай Царкве імя Сьв. Юр'я.**

**Пачалося сьвяткаваньне ўрачыстай літургіяй, якую вёў а. Дзімітры Бажко. Потым у цырыманіяльнай залі працягвалася афіцыйная частка сьвята. Старшыня ўрачыстасьці сакратар БАНР спадар Мікола Латушкін павіншаваў усіх прысутных са сьвятам 25-га Сакавіка і зачытаў віншаваньні, дасланыя губернатарам штату Ілінойс Дж. Райянам і іншымі дзяржаўнымі і гарадзкімі арганізацыямі ды асобамі.**

**З рэфэратам "Ідэалы 25-га Сакавіка і сучаснае становішча на Беларусі" выступіў журналіст, спадар Ванкарэм Нікіфаровіч. Потым адбыўся прагляд забароненага на Беларусі дакумэнтальна-публіцыстычнага кінафільму "Звычайны прэзыдэнт".**



Сп. Ванкарэм Нікіфаровіч чытае сьвяточны даклад у Чыкаго.

* * *

**Урачыстае сьвяткаваньне з нагоды Дня незалежнасьці Беларусі — 25-га Сакавіка адбылося таксама ў Чыкагскім Беларускім Рэлігійным і Культурным Цэнтры, што на вуліцы Фулертон.**

**Пасьля ўрачыстай літургіі гучалі віншавальныя выступленьні спадароў Нікадэма Жызьнеўскага і Ванкарэма Нікіфаровіча. Многія з удзельнікаў сьвята падзяліліся сваімі цікавымі ўспамінамі, зьвязанымі з жыцьцём у эміграцыі і з барацьбой за ідэалы Рады БНР і 25-га Сакавіка. Былі выкананы Амэрыканскі Гімн і беларускі рэлігійны гімн "Магутны Божа".**

В. Н.

## ... і ў Кліўлендзе, ЗША.

**У сыботу, 27-га сакавіка адбылося сьвяткаваньне 81-е гадавіны абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, — 25 Сакавіка 1918 г.**

**Урачыстасьць адчыніў старшыня Аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе спадар Янка Ханенка, які пасьля выкананьня Амэрыканскага гімну адчытаў шматлікія прывітаньні ад розных арганізацыяў і ўстановаў.**

**а. настаяцель Міхась Страпко выгаласіў кароткую сьвяточную малітоўную казань, а ўжо далей сп. Поўл Васілеўскі, працаўнік адміністрацыі губернатара, прачытаў адмысловую Праклямацыю ад губернатара штату Огайо з нагоды сьвята 25-га Сакавіка. Пры нагодзе ён-жа ўручыў спэцыяльныя Граматы, таксама ад губэрнатара Б. Тафта, за заслугі на беларускай грамадзкай ніве айцу Міхасю Страпку, Тацьцяне Кананчук і Кастусю Калошу.**

**Рэдактар газэты "Беларускі Дайджэст" Мікола Прускі прачытаў прынагодны рэфэрат, а месны ведамы хор "Васількі" ў сваёй канцэртнай праграме прасьпяваў некалькі беларускіх песьняў.**

**Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў Кліўлендзе закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".**

**Належыцца вялікая падзяка жанчынам на чале з Евай Ераховіч за падрыхтоўку пачастунку, які складаўся з розных смачных і традыцыйных даньняў.**

## ... і ў Лёндане, Англія

**У сыботу 27-га сакавіка ў канфэрэнцыйнай залі Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны адбылася акадэмія прысьвечаная 81-м угодкам абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі актам 25-га Сакавіка 1918 г. Перад акадэміяй у капліцы сьв. апосталаў Пятра і Паўла а. А. Надсон адслужыў малебень за Беларускі народ. У патрыятычнай пропаведзі а. Надсон зьвярнуўся да прысутных з просьбай маліць Бога, каб Усемагутны дапамог Беларускаму народу захаваць поўную незалежнасьць Бацькаўшчыны.**

**Пасьля малебеню прысутныя перайшлі ў канфэрэнцыйную залю. Акадэмію адкрыла старшыня ЗБВБ спадарыня Лёля Міхалюк. Яна ад імя ўправы ЗБВБ прывітала прысутных і ў сваёй зьместоўнай прамове нагадала аб гістарычнай важнасьці дня 25-га Сакавіка для Беларускага народу. Гэтую гадавіну беларуская дыяспара ўспамінае кожны год...**

**Прывітальныя тэлеграмы прачытаў сябра Управы — Ігар Лебатсэвіч. Прывітаньні надасалалі старшыня Рады БНР. Івонка Сурвіла, арганізацыя Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына", арганізацыі у ЗША., Аўстраліі і іншых краінах.**

**Зьместоўныя рэфэраты на тэму дня прачыталі студэнты ангельскіх унівэрсытэтаў Ігар Іваноў і Павал Шаўцоў. Патрыятычныя вершы Я. Коласа прачытала Марыя Міцкевіч. Пераклады вершаў Натальлі Арсеньневай і Якуба Коласа ў ангельскую мову прадэклямавала ведамая перакладчыца Вера Рыч. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем нашага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".**

**Жанчыны прыгатавалі багаты пачастунак, дзе пры шклянцы віна прысутныя знаёміліся і дзяліліся сваімі уражаньнямі ды ўспамінамі. Прыема было бачыць такжеле беларускай моладзі, якая аднолькава добра валодае і ангельскай і беларускай мовамі.**

С. Б.

## Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы,

### Беласточчына...

| | |
|---|---|
| 192. Мікола Сагановіч | $50.оо |
| 193. Паўль Васілеўскі | $10.оо |
| 194. Васіль Плескач | $50.оо |
| 195. Мікола і Рэня Касьцюк | $50.оо |
| 196. Юлія Андрусышын | $20.оо |
| 197. Стыў Лукашэвіч | $10.оо |
| 198. Волтэр Літвінка | $7.оо |
| 199. Нэталі Сьмірноў | $50.оо |

**Прадаўжэньне ЛІСТЫ ахвярадаўцаў у наступных №№ нашае газэты... Дзякуем!**

**Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас, на прозьвішча М. Пpускі.**

**Усіх тых людзей добрае волі, хто дасюль яшчэ не пераслаў свае ахвяры, ветліва просім не адкладаць гэтую справу на пазьней, а выслаць ахвяру яшчэ сёньня...**



польскае нацыянальнае меншасьці ды яе школьніцтва ў Беларусі.

Сярэдні рабочы, каб зарабіць суму 115 мільёнаў рублёў, мусіць працаваць цэлы год.

Падаецца да ведама наш e-mail address: **bdigest@iserv.net**

## ПРЫСЬВЕЧАНЫ БНР.

**Конкурс рэфэратаў пра Беларускую Народную Рэспубліку, зладжаны па ініцыятыве мясцовай філіі маладзёжнай арганізацыі "Грамадзянскі Форум", быў праведзены ў школах Гомеля і Сьветлагорска.**

**Імпрэза па выніках конкурсу прайшла ў 56-ай гомельскай школе-ліцэі, дзе беларускую мову і літаратуру выкладае былы вайсковец Сяргей Несьцяровіч. Навучэнцы менавіта гэтай школы паказалі найлепшыя веды па азначанай тэме. Вылучыліся і некалькі вучняў 10-ай гомельскай сярэдняй школы з англійскай мовай навучаньня. У якасьці ўзнагародаў пераможцы конкурсу і аўтары найбольш цікавых рэфэратаў атрымалі бібліятэчкі беларускай кнігі, якія ўручыў віцэ-прэзыдэнт "Грамадзкага форуму" Алесь Карніенка...**

*А. Мельнікаў*, 'ЛіМ'

* * *

**— Чым Наваградак адрозьніваецца ад Пецербурга?**
**— Пецярбург — горад, які пабудавалі на балоце, а Наваградак — горад, які ўлады ператварылі ў балота.**

## АПОШНІЯ ВЕСТКІ...

Жонка, арыштаванага Міхася Чыгіра, Юлія Чыгір вядзе прадвыбарчую кампанію за свайго мужа на пасаду прэзыдэнта Беларусі. Прэзыдэнцкія выбары назначаны на 15 траўня гэтага году. Юлія Чыгір, паведамляюць, вельмі добра спраўляецца з гэтай місіяй. 25-га красавіка Юлія Чыгір і Зянон Пазьняк, — другі кандыдат на пасаду прэзыдэнта Беларусі, адказвалі на розныя пытаньні выбаршчыкаў, у чым жонка М. Чыгіра — Юлія, Зянону Пазьняку у нічым не ўступала...

* * *

Беларуская апазыцыя вывела на вуліцы Менску 25-га красавіка г. г. больш як 7000 дэманстрантаў, каб адзначыць 13-ю гадавіну Чарнобыльскай біды і выказаць пратэст супраць Лукашэнкаўскае палітыкі. Дэманстранты крытыкавалі аб'яднаньне Беларусі, Расеі і Сербіі ды дамагаліся вызваленьня з турмы Міхася Чыгіра, кандыдата ў прэзыдэнты Беларусі.

* * *

23-га красавіка Беларусь наведаў міністар абароны Расеі , Ігар Сяргееў, дзе ён упэўнена пачуваўся гаспадаром вайсковых структураў Беларусі. Трэба ведаць, што цяперашняе камандаваньне так званай беларускай арміяй цалікам знаходзіцца ў руках расейскіх гэнэралаў...

Лукашэнка са свёю чужою камандаю і расейскія гэнэралы цягнуць Беларусь у вельмі небясьпечную сытуацыю, што можа прынесьці беларускаму народу шмат гора, няшчасьця і бяды...

* * *

Алег Манаеў, дырэктар незалежнага Інстытуту сацыяльных, палітычных і эканамічных студыяў кажа, што ў першыню лічба Лукашэнкаўскіх праціўнікаў перавышае ягоных падтрымальнікаў.

Сакавіцкае апытаньне паказвае, што 21.8% далей падтрымоўвае Лукашэнку, а 26.1% выступаюць супраць яго.

Таксама цікава, што 54% апытаных хочуць, каб прэзыдэнцкія выбары адбыліся ў 1999 годзе, што адпавядае Канстытуцыі з 1994 году.

* * *

Лідэр польскае меншасьці ў Беларусі, Тадэўш Гавін, быў арыштаваны і асуджаны на 115 мільёнаў рублёў штрафу. Улады закідаюць яму несанкцыяваны пікет у падтрымку

